# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 8 (1710) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 19 ЛЮТАГА 1989 г. ЦАНА 20 зл.




*На ўрачыстасці з нагоды падсумавання конкурсу вясковых клубаў у Курашаве выступіў пасля паўгадовага перапынку інструментальна-вакальны калектыў „Дубны". Спявалі з той жа энергіяй, з такім жа запалам беларускія народныя і сучасныя песні.*

## НАЙЛЕПШЫЯ У ВАЯВОДСТВЕ

21 студзеня ў Курашаве адбылося ўрачыстае падсумаванне ваяводскага конкурсу на найлепшы вясковы клуб. Конкурс такі адбываецца штогод. У апошні час пераможцамі гэтага конкурсу былі клубы ў вёсках Рагаўка к/Сямяціч (1982 год), Міклашэва к/Нараўкі (1983 г.), Тыневічы Вялікія к/Нарвы (1984 г.), Скупава к/Нараўкі (1985-86 г.г.), Гарнова к/Дзядкавіч (1987 г.), а ў гэтым годзе Курашава разам з Чыжамі.

Навіной у сёлетнім конкурсе было тое, што маглі выступіць парамі клубы, якія супрацоўнічаюць.

Большасць клубаў з прыемнасцю падхапіла новую ідэю. Як кажуць у народзе, адна галава — добра, а дзве — лепш. Супольна дзвюм радам клубаў можна цікавей прадумаць супольныя мерапрыемствы, ды і праводзіць іх разам, ва ўзаем-

(Працяг на стар. 3)

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ.

## СОЙМ ДРУГІ-унутраная эміграцыя

Роўна год назад, 14 лютага 1988 года, „Ніва" расказвала сваім чытачам аб І Вальным Сойме беларускіх суполак, які адбыўся пад Мінскам. І вось, чарговая падзея на шляху Новага Беларускага Адраджэння — ІІ Вальны Сойм (14-15.І.1989). Але чаму гэтым разам ён праходзіў па-за межамі БССР, у сталіцы братняе Літвы — Вільнюсе?

Тлумачэнняў тут некалькі. Шукайце іх хоць бы ў тым крызісе аўтарытэту ўлады на Беларусі, аб якім апошнім часам многа пішуць цэнтральныя савецкія выданні („Огонёк", „Смена", „Литературная газета", „Московские новости", „Правда"). Паводле асобных публікацый „Ніва" ўжо рабіла перадрукаванні.

Яскрава сведчыць за сябе і такі факт: адміністрацыя аднае маладзёжнае газеты, пачуўшы, што на Сойм запрошаны некалькі яе карэспандэнтаў, тэрмінова разаслала іх па камандзіроўках у зусім адваротныя бакі. Калі агенцтва БЕЛТА падрыхтавала да перадачы рэспубліканскім выданням чарговы афіцыйны вырок нефармальнаму руху, які пасмеў хоць не тут, дык у Літве (ледзь не на эміграцыі) здзейсніць свае „жахлівыя намеры" (аб'яднацца дзеля падтрымкі перабудовы), газета „Правда" прымусіла кардынальна змяніць пастаноўку пытання. У артыкуле „Не знайсці згоды" 17 студзеня орган ЦК КПСС сам вынесіў суровы прысуд тым ідэалагічным кіраўнікам рэспублікі, якім „не хапае ведання праблем, што хвалююць моладзь, інтэлігенцыю", якім „толькі і хочацца пачуць ад нефармалаў чагосьці „смажанага", якія „згубілі здаровы тон размовы з народам".

Нарэшце, у сваім рэагаванні на Вальны Сойм, са старонак „Правды" Масква выказала і свае адносіны да пытання, якое даўно сабатуе афіцыйна-бюракратычны Мінск — пытанне выкарыстання беларускай нацыянальнае сімволікі. „Бела-чырвона-белы сцяг і герб „Пагоня" з выявай вершніка на кані — пад гэтымі сімваламі беларуска-літоўскія харугвы гераічна змагаліся ў Грунвальдскай бітве, — піша „Правда". І далей: — Чаму б тады не разгарнуць у Доме культуры выставу беларускай дзяржаўнае і нацыянальнае сімволікі?"



*Выступае Зянон Пазняк.*

Для мінскай, як тое назваў пісьменнік Алесь Адамовіч, Вандэі такая прапанова паўстае „самай невырашальнай праблемай", бо са старонак сваёй прэсы, баючыся сапраўднага яднання народа вакол сваіх сімвалаў, яна паспела аднесці „Пагоню" і сцяг ледзь не да фашысцкіх падарункаў (?!)

І ўсё ж Сойм адбыўся і прайшоў менавіта пад знакам гэтых дарагіх сімвалаў. Адраджэнскі настрой пачаўся яшчэ на чыгунцы. Цягнікі Мінск-Талін, Мінск-Вільнюс, Харкаў-Калінінград літаральна паваго́нна, пакупэйна шчыравалі беларусамоўем. Тое ж назіралася і ў мінскіх аўтобусах паўночна-заходняга кірунку. Навакольныя пасажыры толькі здзіўлена лыпалі вачыма, стараючыся падладзіцца пад гэтак нечакана для іх ажыўшую мову. Ім ледзь не здавалася, што яны праспалі нейкі важны момант перабудовы і прачнуліся, калі ўсё ўжо адбылося.

А ўсё ж было проста: дэлега-

(Працяг на стар. 4)

## малюнкі школьнікаў



„Трактар". Маляваў Марцін Куптэль, вучань другога класа школы № 3 з Бельска.

(Праця́г са стар. 9)

## Вучнёўская творчасць

цы́ багатая. Твора́ць яе не толькі пісьменнікі, мастакі, паэты, але і мы, звычайныя людзі. Ці можам мы не ведаць пра Купалу, Багдановіча, Коласа, тых усіх, хто вычароўваў прыгажосць з нашай мовы. Кожны павінен ведаць сваё роднае, нават калі толькі для сябе, для сваёй душы. Вось як пісаў Алесь Гарун у вершы „Ты мой брат".

Ты мой брат, каго завуць
беларусам,
Роднай мовы сваёй
не цурайся,
Як не зрокся яе
пад прымусам,
Так і вольным цяпер
не зракайся.
Ад дзядоў і ад прадзедаў,
браце,
Гэта скарб наш адзін
захаваўся...

Чаму мы такія скорыя добраахвотна нішчыць тое, за што нашы дзеды і бацькі аддавалі жыццё? Вось, хоць для прыкладу, пратэст жыхароў вёскі Гальлынка з апавядання Янкі Брыля, за які яны былі арыштаваны: „Мы, жыхары вёскі Гальлынка, заяўляем пратэст супраць таго, каб нашы дзеці вучыліся не на роднай мове і патрабуем адкрыць у нас беларускую школу!.."

Родную нашу мову трэба шанаваць. Яна — найважнейшая.

Эва Нікалаюк

## Вершы Віктара Шведа

### ЁН ПІСАЎ, Я ДЫКТАВАЎ

Мама пачала размову:
— Заслужыў хто за віну,
Хто з вас надта брыдкім словам
Запісаў усю сцяну?

— Пакараць тут трэба брата, —
Адазваўся Яраслаў. —
Я ў нічым не вінаваты,
Я дык толькі дыктаваў.

### ХОЦЬ ПРАМОК ДА НІТКІ

— Пайду я, мама дарагая,
Купіць два сшыткі, — кажа
Якаў.
— Пагода, сынку, вось такая,
Што і не выганіш сабаку!

Прыдзе татулька твой з работы,
І хоць бы ён прамок да ніткі,
Напэўна збегае з ахвотай
У магазін табе па сшыткі.

### РАЗУМНІК

Тата сынка пытае:
— Скажы, сыночку мой,
Паедзем мы трамваем,
Ці пойдзем пехатой?

Тут адказаў без спешкі
Бацьку маленькі Стах:
— Ісці ты можаш пешкі,
Калі я на руках.

### ЦІ ЗАЙЦАЎ ТЫ БАІШСЯ, ТАТА?

Ранюсенька выходзіць з хаты
Бацька на паляванне.
— Ці зайцаў ты баішся, тата? —
Пытае раптам Ваня.

— Ды не пужаюся, вядома,
Я зайцаў аніякіх.
— Чаму ж тады выходзіш
з дому
Са стрэльбаю, сабакам?

### АГАТА МАЕ БРАТА

У школе хваліцца Агата
На кожным перапынку:
— Маленькага я маю брата,
Што плача безупынку.

— А на каго ж падобны брацік?
— На дзедку, кажа мама.
— Калі на дзедку, гэта значыць,
Ён з барадой, вусамі?

### НЕ ПОМНІЦЬ ЁН ТАКСАМА

Настаўнік просіць Дзіму:
— Скажы нам, мілы братка,
Што абмяркоўвалі мы
Учора на занятках?

Дзіма развёў рукамі
І адазваўся скромна:
— Я гэтага таксама
Не здолею прыпомніць.

### ЦАР ЗВЯРОЎ

Настаўнік пытае
На ўроку малышоў:
— Каго мы называем
Царом усіх звяроў?

Так, як заўсёды, шпарка
Адказвае Макар:
— Дырэктар заапарка —
Гэта звярыны цар.




(Працяг са стар. 9)

да нас магчыма толькі пры адной умове.

Ясь. Якой?

Светафор. Трэба ведаць, прычым выдатна ведаць, усе правілы бяспекі руху пешаходаў.

Ясь. Значыць, каб туды трапіць, я не магу ведаць гэтых правіл, а каб выбрацца — павінен добра ведаць.

Светафор. У гэтым увесь парадокс, уся загадка каралевы Аварыі.

Ясь. Трэба нешта прыдумаць. Думайце, ваша свяцілельства Светафор. У вас жа трохкаляровая галава.

Светафор. Бачу, што ты адважны хлопчык. Я прыдумаў выйсце. Вось. Трымай гэтую каштоўную кнігу законаў нашай Краіны дарожных знакаў. Схавай яе. Як толькі трапіш у каралеўства, вывучы — і тады не будзе ў цябе ніякіх перашкод, каб выратаваць сваю сястру. Мы будзем чакаць цябе ля мяжы.

Шлагбаум. Геніяльна. Слава Светафору!

Усе. Слава!

Ясь. Згодзен. Давайце хутчэй кнігу.

Светафор (*падае кнігу*). Памятай, абавязкова вывучы ўсё. Чым больш ты будзеш ведаць правілаў, тым горш будзе адчуваць сябе каралева Аварыя. Шчаслівай дарогі табе, Ясь.

Ясь. Да сустрэчы!

*Светафор выходзіць, за ім выходзяць усе астатнія. Ясь застаецца адзін.*

І навошта мне гэта кніга? Не люблю чытаць. (*Хавае кніжку за пазуху*). Здам на макулатуру. А каралеву Аварыю я і так адолею.

*Музыка.*

**Карціна чацвёртая.**

*Каралеўства Аварыі. Доўгая „мёртвая" гадзіна" ў гаспадарою каралеўства. Моцна храпуць Аварыя, Крумкач, Трагічная Сітуацыя, Няшчасны Выпадак.*

Яніна. Тут нават птушкі не лётаюць. Няма ў каго і спытаць. Эй, воблачка, ці не бачыла ты майго брата? Калі ўбачыш, перадай яму, што тут мне вельмі кепска.

Бярозка. Хоць сілы і пакідаюць мяне, але ж я буду старацца, каб не ўпасці.

Яніна. Я веру, ён павінен прыйсці. Ён выратуе нас.

*З'яўляецца Ясь.*

Ясь. Ой, дзе я? Хто тут спіць? Як тут нялюдна і жахліва.

Яніна (*заўважае брата*). Ясь. Ясік! Я тут!

*Ясь вызваляе ад вяровак сястру.*

Ясь. Янінка, куды мы папалі?

Яніна. Цішэй ты. Мы ў каралеўстве Аварыі. А як ты трапіў сюды?

Ясь. Твой лісцік дапамог, а потым перабег вуліцу.

Яніна. У забароненым месцы?

Ясь. А ты адкуль ведаеш?

Яніна. Інакш ты б не трапіў сюды, да каралевы Аварыі. Ой, яны прачынаюцца. Трэба бегчы.

Ясь. Ты бяжы, а я даганю цябе праз хвіліну.

*Яніна выходзіць. Ясь бярэ дубіну з надпісам „Аспірын".*

А вам, каб смачней спалася, я падсыплю пад галовы пуху. (*Б'е Аварыю, Крумкача, Няшчасны Выпадак, Трагічную Сітуацыю. Але вось цуд — яны прачынаюцца і усе ўсміхаюцца*).

Аварыя. Ах, як добра! Як гэта спрыяе сну!

Трагічная Сітуацыя. Даўно мяне ніхто так асцярожна не будзіў.

Няшчасны Выпадак. Добры чалавек, стукні мяне яшчэ разок.

Ясь (*здзіўлены*). Нічога не разумею. Я іх б'ю, а ім гэта падабаецца.

*Б'е ўсіх яшчэ па адным разу.*

Крумкач. І мне, мне, дарагі, падсып. Ой, як прыемна.

Яніна (*збоку*). Ясь! Не бі іх больш!

Ясь. Чаму?

Яніна. У гэтым каралеўстве ўсё наадварот. Калі іх б'юць, калі яны бачаць кроў, то лепш сябе адчуваюць. Бяжым хутчэй адсюль, пакуль яны зусім не прачнуліся.

Крумкач. Позна! (*Бярэ трубу*).

*Гучыць сірэна „хуткай дапамогі"*.

Каравул! У каралеўстве шпіёны!

Працяг будзе.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Толькі адна дарога вядзе ў цэнтр лабірынта. Знайдзі яе.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка".

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ШУМЯЦЬ БЯРОЗЫ Ў ПАРКУ ПЕРАМОГІ

**Словы В. Свіркі** **Музыка Ю. Семянякі**

*Шумяць бярозы ў парку Перамогі,*
*Ля помніка задумаўся салдат.*
*Ён помніць сорак першага трывогу*
*І ў сорак пятым радасны парад,*
*І ў сорак пятым радасны парад.*

*Былі баі, былі цяжкія страты,*
*Не ўсіх дамоў дарогі прывялі.*
*Сябры яго, бясстрашныя салдаты,*
*У песнях і ў легендах ажылі,*
*У песнях і ў легендах ажылі.*

*А песня адгукаецца салюту,*
*І ўзносіць вечны подзвіг над зямлёй...*
*Бярозы, памаўчыце хоць мінуту...*
*Над памяццю схіляецца герой,*
*Над памяццю схіляецца герой.*







# НІЎКА



— Ну і народ гэтыя археолагі: знойдуць якую-небудзь костачку, а шуму!..

## ПАРАДЫ

Калі падазраеш, што стаўся ты незвычайным, пачакай, няхай гэта заўважаць другія.

Духоўна багаты можа спаць спакойна: яго не абкрадуць.

Ушчэмленае самалюбства падобнае на хворы зуб: пастаянна ные.

Вучыся шчодрасці ад сонца: яно ўсім свеціць, усіх грэе — і нічога за гэта не патрабуе.

## У СВЕЦЕ МУДРЫХ ДУМАК

Чалавек павінен быць разумны, просты, справядлівы, смелы і добры. Толькі тады ён мае права насіць гэтае высокае званне — Чалавек.

*Канстанцін Паўстоўскі (1892-1968), пісьменнік.*



Ёсць людзі, у якіх адмоўныя з'явы ў жыцці выклікаюць станоўчыя эмоцыі.

# КРЫЖАВАНКА

*Упоперак: 1) мае адзін вялікі горб, 7) „дзядзька", які меў сваю палоску ў „Ніве", або смачны напітак, 9) скача найвышэй у свеце з шастом, 10) недахоп у характары, 11) краіна і рака ў Афрыцы, 12) стары венік, 15) не сцэне, або на арэне, 18) напр. „дз", 19) кароценькі літаратурны твор, 23) конь працуе, а ён зарабляе, 26) заўсёды вылязе з мяшка, 27) „выводзіць" дым, 28) вышэйшы за чаравік.*

*Уніз: 1) лекцыя, 2) растылая сумесь, або вельмі многа чагосьці, 3) у руках разьбяра або столяра, 4) ловіць з вады, 5) суседзі югаславаў, 6) зялёная на лузе, 8) манголка, 13) „60", 14) незвычайнасць, таямнічасць, 16) размовы, або ўрока, 17 моц, 18) у судзе, 20) чорны пінжак з „хвастамі", 21) найчасцей выступае ў музыцы, 22) з сэрцам, але не жыве, 24) кутні ў роце, 25) калі велізарны, дык не да замацоўвання шыбы.*

(ядань)

*Сярод чытачоў, якія на працягу двух тыдняў прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будзе разыграна кніжная ўзнагарода.*

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 2.*

*Упоперак: 1) студэнт, 5) Омск, 9) мара, 10) сотка, 11) Надзя, 12) маці, 14) лодка, 15) ікра, 17) сказ, 19) данос, 20) смак, 22) індык, 23) Ленін, 24) Осла, 25) Кіеў, 26) стралкі.*

*Уніз: 2) трава, 3) дранік, 4) ноздра, 6) метадызм, 7) красавік, 8) асялок, 12) міндалік, 13) ціснене, 16) расліна, 17) садыст, 18) аскома, 21) арляк*

*Узнагароды выйгралі: Дзік Аркадзь Віктаравіч, БССР, Віцебская вобласць, Докшыцкі р-н, пасёлак Чырвонае Беразіно, вул. Савецкая 22, і Ваўрэнюк Веслава, Бельск-Падляшскі, вул. Жвіркі і Вігуры № 14.*




Пасля выступлення дырэктара ён заўсёды кідаў рэпліку: „Я таксама так думаў". І стаў яго намеснікам.

Гаспадыня паказвае сваім сяброўкам фатаграфію з дзяцінных гадоў. На ёй знята маленькая дзяўчынка на каленях у старой жанчыны.

— Такой я была трыццаць гадоў таму назад. Падабаюся я вам?

— Вельмі. А хто гэта малютка?







## ПАПРАВІЎСЯ

— Алё! Архіпаў?

— Яго няма. А што перадаць?

— Хацелі запрасіць на свежыну...

— Зараз буду!

**М. Сліва**

## ХІТРЫ СІДАР

Сідар мо ў дзесяты раз нясе за прахадную завода новае вядро са смеццем. Вартаўнік яму і кажа:

— Нешта ты, Сідар, крадзеш, але вось што — аніяк не ўцямлю...

— А калі я скажу, дык вэрхал не падымеш?

— Дальбог, не.

— Вёдры краду, — смяецца Сідар. — Туды з вядром, а назад без вядра.

**А. Дзік**




Адзінае мора, у якім прыемна тануць — гэта мора задавальнення.